# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 30 (282) | ГОД VI | БЕЛАСТОК 23 ЛІПЕНЯ 1961 ГОДА | ЦАНА 60 ГР.



НАД НАРВАЙ ▲



БЕЛАСТОЦКІЯ «ПЛЯНТЫ». У глыбіні парку — помнік удзячнасці Савецкай Арміі.

◄ фота: Г. Рагазінскі

## СЛАЎНАЯ ГАДАВІНА

**Мінае 17 год з таго дня, калі Чырвонай Арміяй і Войскам Польскім у першых вызваленых ад гітлераўцаў раёнах польскай зямлі арганізавалася народная ўлада. 22 ліпеня 1944 года ў Хэлме Польскім камітэтам народнага вызвалення быў апублікаваны Маніфест да польскага народа. З гэтага дня датуецца новая эра ў гісторыі Польшчы.**

**Маніфест накрэсліў асноўны напрамак будовы новага ладу ў граніцах ад Бугу па Одру і Нысу Лужыцку. Ліпеньскі Маніфест ПКВН палажыў канец сацыяльнай і нацыянальнай несправядлівасці. Польшча стала Айчынай не толькі палякам, але і ўсім нацыянальным меншасцям, пражываючым у яе граніцах. Гэта Айчына працоўнага люду.**

**Пад кіраўніцтвам ПАРП і пры вялікай дапамозе СССР народныя масы Польшчы паднялі з грузаў гарады і вёскі, фабрыкі і школы. Няма зараз такой галіны жыцця, у якой наш народ не мог бы ганарыцца агромнымі дасягненнямі.**

**Аб нашай дзяржаве з павагаю гавораць на свеце. Голас Польшчы адыгрывае вялікую ролю на міжнароднай арэне. Польшча разам з усімі сацыялістычнымі краінамі з'яўляецца надзейнай апорай міру на ўсім свеце.**

**Разцвіўшая наша краіна — гэта вынік ахвярнай працы мільёнаў людзей, у тым ліку і беларускага насельніцтва.**

**22 ліпеня, у 17-ую гадавіну народнай улады, мы паднімаем тост за далейшыя поспехі ў будаўніцтве сацыялізма ў нашай краіне.**



## Адна на ўсю Польшчу

Эсперанта — міжнародная мова. А творцам яе быў беластачанін Людвіг Заменгоф. Мова эсперанта зараз ужо шырока распаўсюджана і штораз больш людзей яе вывучае. Для вывучання яна не цяжкая.

У 100 гадавіну нараджэння творцы эсперанта збудавана ў Беластоку школу - помнік імя Л. Заменгофа (бачыце на здымку). Школа прыгожая і вялікая. 826 дзяцей вучыцца тут у сямі класах. Характэрнай рысай школы імя Людвіга Заменгофа з'яўляецца тое, што ўжо ад трэцяга класа дзеці вывучаюць эсперанта. Як сцвярджае дырэктар школы — **Балеслаў Асцілоўскі,** робяць гэта ахвотна і з зацікаўленнем.

Школа імя Людвіга Заменгофа — самая папулярная сямікласная школа ў Беластоку.

І яшчэ адно: школа імя Л. Заменгофа ў Беластоку — гэта **адзіная сямікласная школа ў Польшчы, дзе навучаецца эсперанта.**

**вл.**

фота: **Я. Рыбінскі**

З ВЫПАДКУ СВЯТА АДРАДЖЭННЯ ЎСІМ ЧЛЕНАМ БГКТ ЧЫТАЧАМ „НІВЫ“ і сімпатыкам **СКЛАДАЕМ САРДЭЧНЫЯ ВІНШАВАННІ**

*ГП БГ-КТ І РЭДАКЦЫЯ „НІВЫ“*

## ТАКІХ МНОГА

У 1944 годзе Мікалай Міруць закончыў усяго 10 год. Мала ён тады разбіраўся ў тым, што абазначае «Ліпеньскі Маніфест», і якія перспектывы высоўвае перад ім, вясковым хлапчуком, паўстанне народнай улады ў краіне. У такім узросце чалавек наогул мала разбіраецца ў падзеях, якія адбываюцца ў грамадскім жыцці.

Але 10-гадовы Коля добра ведаў, што за гэтую народную ўладу аддаў сваё маладое жыццё ў гады цёмнай фашысцкай акупацыі яго старэйшы брат — партызанскі сувязны, дзядзька, і шмат другіх людзей з аколіцы.

Як жа жывымі стаялі перад вачыма 10-гадовага хлапчука малюнкі з цяжкіх гадоў акупацыі. Вось у кругу скупога святла газоўкі над сталом пахіліліся галавы партызан. Сярод іх — бацька, брат Міша. Нешта абмяркоўваюць. Да драмлючага на печы Колі даходзяць толькі некаторыя прыглушаныя словы.

Зімовая раніца 1942 года. Колю разбудзіў ломат у дзверы. Да хаты ўварваліся гітлераўцы. Яны па-зверску пачалі біць прыкладамі бацьку і дзядзьку. Выцягнулі іх у самай бялізне на двор. А там на санях ранены. Якій жа знаёмы ў яго твар. Але ж так, гэта ён, адзін з партызан.

— Гэта яны, — ледзь чутна прамовіў здраднік. — Вінтоўкі захаваны там за хлявом, пад трэскамі, — дадае ён, паказваючы рукой. Ізноў гітлераўцы прыкладамі падганяюць мужчын да захаванага на панадворку складу партызанскага аружжа. Бацьку і дзядзьку гітлераўцы забіраюць. За вёскай, без пары сканаўшага здрадніка, фашысты выкідва-

(Працяг на стар. 4)

Ён нас найбольш і цікавіў.

У гродзенцаў зусім адваротны цыкл прадукцыі. Камплеты машын тут знаходзяцца на паверсе. Прыгатаваную ўнізе мяшанку давозяць на паверх, дзе змяшчаюцца камплеты, пнеўматычныя транспарцёры. У нас гэтую мяшанку завозіцца



**Дэлегацыя тэкстыльшчыкаў прадпрыемства імя Сяржана ў мясцовасці Падрось — месцы адпачынку гродзенскіх тэкстыльшчыкаў.**

на камплеты ўручную, затрачваючы пры гэтым шмат цэннага часу. Пры мяшалках яны заінсталявалі аўтаматычныя апараты т. зв. «натрысківачэ». У нас гэта выконваецца старым спосабам. Проста рабочы палівае мяшанку з конаўкі. Або, напрыклад, кліматызацыя. Як вядома ў пра-



**Вельмі горача сустрэлі беластоцкіх тэкстыльшчыкаў выхаванцы дзіцячага дома тэкстыльшчыкаў у Гродна.**

дзільным цэху паветра павінна быць даволі вільготнае, каб менш рваліся ніткі. Гродзенскія тэкстыльшчыкі вельмі спрытна развязалі гэтую праблему. Яны проста замацавалі ўгары рухавік з дыскам. На дыск пырскае вада і паветра робіцца вільготным.

Таксама вельмі добра яны вырашылі справу транспарту. Возікі для развожвання нітак выкананы з дуралюмінюм. Яны вельмі лёгкія і практычня. А ў нас ніткі развозіцца ў цяжкіх драўляных скрынках. Як вядома, дрэва ў нас — матэрыял вельмі каштоўны. А цягаць жанчыне такія скрынкі справа таксама не лёгкая. У гродзенскіх сяброў усе машыны навейшыя. А ў нас большасць састарэлых. Напрыклад, такія сэльвактары (прадзільныя машыны). Каля іх на працягу 8 гадзін працы рабочы выконвае каля 18 кіламетраў дарогі. Зразумела, што і мы па меры магчымасці будзем іх замяняць навейшымі. Але ў Гродзенскім тонкасуконным камбінаце мы пабачылі шмат тэхнічных уляпшэнняў, якія можам прымяніць у сябе вельмі танным коштам. Частку гэтага ўжо мы пачалі прымяняць. Іншыя — пазней.

Апрача гэтага, варта нам таксама ўзяць прыклад з утрымання парадку і чысціні, якая існуе ў Гродзенскім камбінаце.

— Парадак і чысціня — гэта асноўны залог нашых поспехаў, — гавораць рабочыя Гродзенскага камбіната.

Вядома, што тэхнічны прагрэс быў бы зусім не магчымым пры адсутнасці прафесіянальных ведаў рабочага калектыву. Мабыць таму 75% рабочых Гродзенскага тонкасуконнага камбіната вучыцца ў вячаровым тэкстыльным тэхнікуме, а шмат асоб у вышэйшых навучальных установах. Справа павышэння прафесіянальных ведаў рабочага калектыву стаіць тут на першым плане. Нам, нажаль, далёка яшчэ да гэтага. Толькі 7 рабочых нашага прадпрыемства павышае свае веды ў тэкстыльным тэхнікуме.

І культурнае жыццё пастаўлена ў Гродзенскіх тэкстыльшчыкаў на высокім узроўні. Яны маюць у цэнтры Гродна свой палац культуры, маюць уласны дом адпачынку, дом рыбака, летні лагер для дзяцей над Нёманам. Пры камбінаце існуе захапляючы калектыў мастацкай самадзейнасці, якога, дарэчы кажучы, не пасаромеўся б наш Беласток.

Шмат карыснага вывезлі мы з Гродна. Шмат карыснага далі гродзенскім сябрам. І што найважнейшае, на маю думку, нашае канкрэтнае супрацоўніцтва замацоўвае польска - савецкую дружбу. А яна ж — залог далейшага ўсебаковага развіцця нашай краіны.

**РЫШАРД КАСЮК**

**Сакратар Фабрычнага камітэта ПАРП тэкстыльнага прадпрыемства імя Сяржана.**

# УСПОМНІМ МІНУЛЫЯ ДНІ

Усё навокал у святочным убранні. На плакатах і сцягах напісаны светлыя ідэалы свабоды, сацыяльнай справядлівасці і мірнага будаўніцтва. Усюды песні і вясёласць. І вось у такія дні незвычайна радасна на душы супругам Марыі і Івану Зелянкевічам. Настаў час, аб якім яны марылі, аб якім гаварылі на сваіх тайных сходах у час санацыйнага рэжыму.

І мімавольна ўспамінаюцца ім мінулыя жорсткія дні барацьбы пад кіраўніцтвам Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі.

А як гэта было? Крыху фактаў.

Цёплая прыгожая летняя ноч 1935 года. У хмызняк Пабоева сцежкамі і дарожкамі, паразажна ў адзіночку, ідуць людзі. Іх сабралася многа, вельмі многа. На мітынг прышлі не толькі члены КПЗБ і члены Саюза Камуністычнай моладзі, але таксама шмат сімпатыкаў. Яны былі з Малых і Вялікіх Азяран, з Коматаўцаў і Рудакоў, з Ёдзіч і Кулёў, з Непарожняўцаў і Паплаўцаў. Ва ўсіх бадзёры настрой, усе перапоўненыя нянавісцю да эксплуататараў, да паліцэйскага санацыйнага ўрада.

Загаманіў хмызняк. Пачаўся мітынг. Выступаюць незнаёмыя людзі з заклікам да барацьбы, гавораць аб сацыяльнай і нацыянальнай несправядлівасці.

У Галынцы быў вельмі дрэнны войт гміны і камендант паліцыі, які не толькі біў арыштаваных камуністаў, але і вырываў з галавы валасы. На мітынгу калектыўна была прынята пастанова пайсці ўсім у Галынку і там у цэнтры спяваць рэвалюцыйныя песні, і гэтым са-

**(Працяг на стар. 5)**

ЭТНАГРАФІЧНЫ КУТОК



Дом з ганкам гр. Ю. Аленскага ў вёсцы Сток, Сакольскага павета. Звярніце ўвагу на багатыя аздобы гэтага ганка, зробленыя вясковым мастаком.

Фота: **Г. Рагазінскі**

---

цяпер? Ці не рушаюць іх немцы? Успомніліся цяжкія хвіліны развітання з сям'ёй, перад вачыма як жывы ўстаў зменены пасля хваробы твар хлопчыка. Сын абяцаў прыйсці ў лес, як толькі будзе адчуваць сябе лепш.

«Хутчэй бы выздараўліваў. А што, калі планавік?.. — падумаў Яўгень. — Не, не асмеліцца! Ён жа такі трус...»

Адганяючы прэч змрочныя думкі, Абраменка прыспешыў крок.

Вось і дарога. Так, месца не вельмі добрае для засады. Толькі высокае жыта па баках тракта — адзінае прыкрыцце.

Сабраўшы ў цесны гурток байцоў, Яўгень сказаў:

— Задача, таварышы, такая: замаскіравацца вось там, ў лагчынцы, дамо ім уцягнуцца ў мяшок, і — біць усіх да адзінага, да смерці. Каб ніхто не ўцёк!

Пацягнулася нясцерпнае чаканне. Лежачы ў жыце, Абраменка ўслухваўся ў гарачую цішыню, але на дарозе не было нават прыкметы жыцця. Жыццё ішло вось тут, каля самага твару: хутка прабегла му-

31

рашка, божая кароўка, бліскаючы чырвоным панцырам узабралася на жытняе сцябло, над самай галавой прагудзеў чмель. Ціха як, спакойна і мірна... Быццэм і вайны ніякай няма...

Камандзір узвода зноў паглядзеў на дарогу і мімаволі ўздрыгнуў: што гэта, пыл? Так, воддалі віднеліся вузкія палоскі пылу.

— Едуць! — нягучна крыкнуў Яўгень. — Падрыхтавацца!

Палоскі пылу ўсё бліжэй і бліжэй. Вось ужо відна некалькі фурманак і побач іх узброеных немцаў. Але дзіўна, чаму ж і далей, ля Пудаці, пыл вісіць таксама густа? Бадай што, не некалькі фурманак, а цэлы абоз, вялікая вайсковая часць!

— Прапусціць без выстралаў! — перадаў Абраменка.

Ён не памыліўся: следам за фурманкамі пацягнуліся пехацінцы. З нянавісцю глядзеў Яўгень на іх маладыя і, як здавалася яму, нахабныя твары, на шчыльна прыгнаныя мундзіры фашыстаў з яркімі ордэнскімі стужкамі на грудзях. Палец мімаволі цягнуўся да спускаво-

32

га кручка вінтоўкі. Але — нельга: надта іх многа, надта многа...

А войска па дарозе ўсё ішло і ішло.

«На Смаленск, гады. Усе на Смаленск!» — скрыпнуўшы зубамі, дагадаўся Яўгень.

Толькі ля поўдня рух на тракце пачаў сціхаць. І праз гадзіну спыніўся ён зусім.

«Так, — працягнуўся Абраменка, — наступае, здаецца, наша чарга. Будзем біць адстаўшых».

Не памыліўся і гэтым разам.

Неўзабаве з правага фланга перадалі, што з боку Пудаці з'явілася некалькі грузавых машын.

— Колькі? — коратка спытаў Абраменка.

— Тры... Не, чатыры!

— Падрыхтавацца!

Не прашло і дзесяці мінут, як машыны зраўняліся з засадай. Гэта былі шкодаўскія, высокія і доўгія пяцітановыя грузавікі.

— Агонь, агонь!

Тупарылыя грузавікі спыніліся. У адным з іх ахнуў аглушальны ўзрыў, і тут жа полымя ахапіла яго, палілося на дарогу.

33

— Бензін гарыць, бензін! — закрычаў Яўгень, п'янеючы ад лютасці. — Наперад, хлопцы! Атака!

Побач чырканулі кулі. Абраменка прыгнуўся, скрозь жыта выглянуў на дарогу: у рове, зусім недалёка, сядзеў на кукішках гітлеравец. Разявіўшы рот і зацкавана азіраючыся, ён сціскаў у руках чорны аўтамат.

— Эй, сука! — Абраменка выстраліў, і фашыст, выпусціўшы аўтамат, тыцнуўся ў зямлю сваім конскім тварам.

— Наперад, арлы!

Партызаны з усіх бакоў рынулі да машын. Суха шчоўкнула некалькі выстралаў, і апошнія з уцалелых немцаў распрасцерліся ў дарожным пыле.

— Падпальвай, хлопцы! Зброю забірай з сабою!

Праз некалькі мінут усё было закончана. Захапіўшы аўтаматы і вінтоўкі, партызаны хутка ішлі па мяжы да лесу. Ззаду, на тракце, усё вышэй падымаўся чорны дым і з грукатам рваліся бочкі з бензінам...

**(Працяг за тыдзень)**

34

## Над ракой Арлянкай

9 чэрвеня ў маляўнічай мясцовасці над рэчкай Арлянкай непадалёк вёскі Галады на Бельшчыне адбыўся вялікі ўданы фестын. На гэтае свята маладосці сабралася больш дзвюх тысяч чалавек. Арганізатарамі былі Аддзел БГКТ і паляў. Вялікае зацікаўленне выклікалі конкурсы: дэкламацыі, песні і рысунку. Найлепшымі былі ў дэкламаванні Марыся Нікіцюк з Бельска, Рыгор Семянюк з Раек і Марыся Аляксюк з Парцава.

Найлепшай спявачкай



вятовы рэферат культуры ў Бельску. Урачыстасць адкрыў кіраўнік рэферата культуры Васіль Кардзюкевіч. З прамоваю да сабраных выступіў кіраўнік культурна - асветнага аддзела ГП БГКТ Уладзімір Паўлючук. Потым адбыўся агляд інструментальна - вакальных гурткоў. Першае месца атрымалі самадзейнікі з Пілік, якія ўзначальваюцца Пятром Нявінскім. Атрымалі яны камплет абсталявання да святліцы. Другое месца атрымаў мастацкі гурток са Шчытоў, якім кіруе Міраслаў Кадзевіч. Іх узнагародай быў акардэон. На трэцім месцы знайшліся самадзейнікі з Орлі, якія атрымалі фотаапарат. У перарывах паміж выступленнямі быў арганізаваны ПЗГС-ам паказ моды. Паказалі больш трыццаці мадэбыла Дарыя Асеннік з Парцава, а найлепшы рысунак быў Галіны Рэзнер з Бельска. На фестыне поспехам карысталася і кніжная латарэя беларускай і рускай літаратуры. Такім чынам урачыстасць пад знакам 5-годдзя БГКТ і пяцігоддзя «Нівы» прайшла вельмі весела і цікава. Закончылася яна гуляннем, якое працягнулася да позняй ночы.

**На здымку: — паказ моды.**

**мх.**

## СПОРТ ЗДАБЫВАЕ ШКОЛЫ

Ужо закончыўся 1960/61 навучальны год. І ў сувязі з гэтым варта падвесці вынікі працы нашых школ у гэтым годзе. Хачу гаварыць аб фізкультурных занятках у школах Гайнаўшчыны. Мне здаецца, што адказ на гэта дало поўнасцю «Свята маладосці», якое нядаўна адбылося ў Гайнаўцы. Было яно праведзена таксама ў сувязі са святкаваннем Тысячагоддзя нашай краіны. І тут вось на стадыёне «Пушчы» жыхары Гайнаўкі і павета глядзелі цікавы гімнастычны паказ у выкананні 600 вучаніц і вучняў пачатковых школ. Пасля гэтага пачаліся спаборніцтвы па чатырохборствах у лёгкай атлетыцы пачатковых школ. Да барацьбы за першынство прыступілі 22 школы. Варта адразу адзначыць, што былі тут не толькі вялікія школы з Гайнаўкі ці Белавежы, але таксама і малыя, як Дашы. Курашава і другія. У выніку аказалася, што першае месца заняла пачатковая школа з Кленік, набіраючы 115,5 ачкоў. Другое месца заняла школа з Курашава — 97 ачкоў, а трэцяе Белавежа — 94 ачкі. Гледзячы на гэтыя вынікі можна смела сказаць, што спартыўная праца настаўнікаў на вёсцы добрая. Гэтыя першыя дзве школы перамаглі ўсе школы з Гайнаўкі, якія маюць многа лепшыя ўмовы для развіцця спорту. Бачым мы гэта таксама ў іншых індывідуальных выніках. На гэтай спартакіядзе было шмат лепшых вынікаў 13—14-гадовых дзяўчынак і хлопцаў. І важным з'яўляецца тое, што дзеці з вясковых школ вялі спартыўную барацьбу з гарадскімі, як роўны з роўным. І вось бег на 60 м. Першай была Ларыса Тарасевіч (Белавежа) — 9,0 сек. перад Харкевіч (Ляшукі) і Шэшка (Кленікі). Скачок у даўжыню выйграла Прус (Белавежа) — 4,21 м. перад Грыгарук (Кленікі) — 4,12 м. Першай у кіданні палянтавага мяча была Аня Купрыяновіч (Кленікі) — 47,53 м. Сярод хлопцаў у гэтай канкурэнцыі першым аказаўся Андросюк (Курашава) — 67 м.

Спартакіяда была адначасова закаччэннем конкурсу «Найлепшая школа Гайнаўшчыны па фізкультуры». Конкурс гэты браў па, увагу вынікі па лёгкай атлетыцы і шчыпёрняку. Бралася пад увагу колькасць сустрэч у школе і міжшкольных. І тут першае месца заняла школа з Кленік — 855,5 ачкоў перад Курашавам і Кляшчэлямі.

З гэтага можна зрабіць вывад, што настаўнікі Гайнаўшчыны многа папрацавалі ў гэтым кірунку. Дзякуючы іх сумленнай працы, фізкультура на вёсках падымаецца штодзень на вышэйшую ступень. Тут бачым многа працы, а і добрыя вынікі сябра Анатоля Шведа з Курашава, Балеслава Рыхтара з Белавежы, Аляксея Харкевіча з Ляшукоў, Харшляка з Кляшчэляў і многа другіх.

Важным з'яўляецца тое, што асабіста гэтым цікавіцца школьны інспектар Міхась Сабешук. Ён прыходзіць на розныя курсы настаўнікаў фізкультуры, а таксама многа дапамагае ім. Дзякуючы працы настаўнікаў і інспектарату асвёты фізкультура на Гайнаўшчыне будзе штодзённа развівацца.

**Аляксандр Закройшчык**

Кленікі



Нядаўна ў Саколцы быў адкрыты Сялянскі гандлёвы дом.

Будынак СТД з'яўляецца самым прыгожым у Саколцы. У ім можна знайсці ўсё, чаго патрабуюць сяляне ў штодзённым жыцці.

**На здымку: прадаўшчыца Галіна Анджэеўская ў хімічным аддзеле СТД.**

**фота: Г. Рагазінскі**

## Новая ветэрынарная лячэбніца



Жыхары Дзятковіч і аколіцы мелі шмат клопатаў з лячэннем жывёлы. Нідзе тут не было ветэрынарнай лячэбніцы. Хіба што толькі ў Сямяцічах, але ж гэта вельмі далёка і цяжка дайсці з хворай жывёлінай. Таму за кошт дзяржавы пачалі будаваць ў Дзятковічах новую ветэрынарную лячэбніцу. Яна будзе абяспечана навейшым ветэрынарным абсталяваннем і памяшчэннямі для хворай жывёлы. Ветэрынарная дапамога дасць магчымасць насельніцтву павялічыць жывёлагадоўлю.

**(вб)**

**На здымку: будынак новай ветэрынарнай лячэбніцы.**

Фота: **Г. Рагазінскі**

## ДОБРЫ ЎЧЫНАК

У гонар свята адраджэння працаўнікі аддзела сельскай гаспадаркі ППРН і павятовага саюза сельскагаспадарчых гурткоў у Гайнаўцы арганізавалі паездку ў прадукцыйную спулдзельню ў Ваські. Грамадскім чынам яны выкапалі кусок меліярацыйнага рова даўжынёй 130 метраў. Роў выкапалі на спулдзельчых угоддзях т. зв. «папоўшчыне», якія загаспадароўваюцца спулдзельцамі на сенажацці. Гэта добры ўчынак для сельскай гаспадаркі ад сельскагаспадарчай службы.

**(мк)**

**Веcткі з Дуброўшчыны**

## ПАБУДОВА ШКОЛ

У Дуброўскім павеце, як і ў іншых паветах ваяводства, будуецца шмат новых школ. Вясковае насельніцтва не скупіць пры гэтым грамадскага чыну. Грамадскім чынам выконваюцца перш за ўсё нефаховыя працы, такія як: выкопы пад фундаменты, давоз каменя і жвіру, а таксама дапамога пры транспартыроўцы будаўляных матэрыялаў. Гэта намнога аблягчае працу будаўляным прадпрыемствам і прысцяшае пабудову школ.

На пахвалу ў гэтай справе заслугоўваюць, напрыклад, жыхары вёсак Новыя і Старыя Багатэры. Іх уклад грамадскага чыну ў пабудову школы ў вёсцы Багатэры складае суму каля 100 тыс. зл. Пабудову школы пачата тут вясною і, дзякуючы вялікай дапамозе мясцовага насельніцтва, яе пабудова будзе закончана восенню б. г.

Нядаўна жыхары вёскі Сухадаліна зрабілі выкапы пад фундамент для пабудовы 7-класнай школы. Яны забавязаліся таксама грамадскім чынам звезці камене і жвір, неабходныя пры пабудове будынку.

**(мк)**

## ПЕРАДАВЫЯ

**(Працяг са стар. 4)**

камплетам сельскагаспадарчых машын і 2 абмалотачныя агрэгаты. Другога — 3 трактары з камплетам машын і 1 абмалотачны агрэгат. А гэта ўжо многа.

Іншая справа, што трактары не выкарыстоўваюцца тут яшчэ так, як трэба. Але з цягам часу, калі не толькі гуртkоўцы, але і ўсе іх аднавяскоўцы, пераканаюцца ў карысці, якую даюць машыны ў апрацоўцы зямлі — належнае выкарыстоўванне машынна - трактарнай базы кожнага гуртка не будзе праблемай.

Па нагодзе пабыўкі на Бельшчыне нас цікавіла справа выкарыстоўвання ў павеце часткі грошай з дзяржаўнага фонду зямлі, якая прыпадае на Павятовы саюз сельскагаспадарчых гурткоў. Аказваецца, што з гэтым таксама нядрэнна. Кіраўніцтва павятовага Саюза ў Бельску так рашае гэтую справу, каб магчыма ўвесь фонд ішоў у дапамогу гурткам. Напрыклад, вясною Павятовы саюз сельгасгурткоў за належны сабе фонд купіў 3 апрысківачы і перадаў іх гурткам у Орлі, Бранску і Боцьках. Пасля сплаты коштаў амартызацыі гэтымі трыма гурткамі апрысківачы будуць іх уласнасцю.

Самай важнай справай у гурткоўцаў Бельскага павета з'яўляецца зараз далейшае пашырэнне машынна - трактарнай базы, яе належнае выкарыстанне. А гэта галоўнае ў далейшым старце ўсіх існуючых і новаарганізаваных гурткоў. І адносна гэтага галоўнага Бельшчына займае першае месца, аб чым гавораць лікі на пачатку артыкула і прыведзеныя факты з некалькіх гурткоў у павеце.

**М. Кураш**


# Ніва

**Adres redakcji:** Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 25-89, centrala 37-41 do 49.

**Warunki prenumeraty:** miesięcznie — 2.40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14.40 zł, rocznie — 28.80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma.

Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wilcza 46. Nr konta PKO 1-6-100024.

Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie; 5 $ — w USA.

Nakł. 5000. Bltk. B-3




## САМАДБСЛУГОЎВАННЕ

### САД

— Пасля кожнай нашай сваркі муж садзіць яблыню ў гонар згоды.

— О, то хіба ўжо маеце вялізны сад?

**Юрка Скепка**
Альхоўка

### ПАЧАКАЙ

Аднойчы да цырульніка прышоў малады хлапец. Занепакоены тым, што павінен доўга чакаць на сваю чаргу, ён кажа:

—Пане, як доўга я буду чакаць, каб пабрыцца?

Цырульнік, паглядзеўшы на хлопца, кажа:

— О, хлопча, яшчэ каля двух год...

**Коля Стэпанюк**
Палічна

### БАЦЬКА І СЫН

— Татка, ці сапраўды за зло трэба адплачваць дабром?

— Зразумела, што так.

— Ну, дык дай мне на цукеркі, бо я папсаваў твой новы гадзіннік.

**Юрка Скепка**
Альхоўка

### КАМУ БАЛІЦЬ

Забалела Лідзе ножка. Села Ліда і схапілася рукамі за ножку, але не плача. А брацік, Пеця, на ўвесь голас як заплача.

— Што з табою? — кінулася да яго маці.

— Баліць!

— Што?

— Ножка ў Ліды баліць.

**Анна Варанчук**
Войнаўка

### ГУМАРЭСКА.

Прышоў кум куму наведаць. Кума наварыла рыбы ды фасолі і падала на стол. Уплятае кум рыбу на абедзве шчокі, а на фасолю і не глядзіць. Сорамна стала куме, што кум так наваліўся на рыбу, вось яна і кажа яму:

— Паспрабуй кум фасолі.

— Не хачу. З мяне і рыбы хопіць.

— Рыбка то даражэнькая.

— Затое на смак добрая, — адказвае кум і ў вус не дуе.

**Янка Клімюк**
Дубічы Царкоўныя

### ПАМІЖ СУСЕДКАМІ

Жылі дзве суседкі. Адна была хітрая, другая — разумная. Хітрая суседка аднойчы прастудзілася. Хацела яна лячыцца, але так, каб нічога не трэба было плаціць. Яна пытаецца ў разумнай:

— Што ты робіш, калі прастудзішся?

— Кашляю, — адказала разумная.

**Юрка Скепка**
Альхоўка

— Я АФАРМЛЯЮ СПРАВЫ АД РУКІ



## АДПАЧЫНАК

Лета ў разгары. Многія грамадзяне задумваюцца, куды лепш паехаць на адпачынак: над мора, у горы, ці, аддаўшы чортаві душу, махнуць да цёшчы.



— НАДЫДЗЕ ДЗЕНЬ... УЖО БЫЎ ТАКІ ДЗЕНЬ!

Адпачываць у горах людзям са слабым сардэчным клапанам не рэкамендуецца. Падумайце толькі, мілыя чытачы. Пазнаёміцца такі адпачываючы з сімпатычнай турысткай. Ну, вядома, па нейкім часе накіруюцца яны на шпацыр у горы, і тут пачынаецца трагедыя. На першым жа абрыве, калі спадарожніцу трэба ўзяць на рукі і перанесці, слабасардэчны грамадзянін сядае на пянёк і, раскрыўшы рот, як рыба выкінута на бераг, жадна хапае паветра. Ну што ж, наша старавінка Зямля так дурна ўстроена, што мала каму ўдаецца ўвесь час з гары ісці. А некаторыя жанчыны, як козы, лоўка скачуць па горах, і грамадзяне са слабым нутром пры такіх турыстках толькі сораму набяруцца.

Над морам адпачываць таксама не зусім выгадна. Ляжыць чалавек на пляжы і разглядае, які купальны касцюм найлепшы. Дзеля эканоміі матэрыялу некаторыя жанчыны «ўлазяць» у касцюм «бікіні», пашыты з 10 сантыметравага куска мануфактуры. Калі мужчына паглядзіць на такі касцюм, дык сэрца яго падскаквае на паўметра. Слова за словам і новыя знаёмыя лезуць у мора. Уласніца «бікіні» плыве як акула, а яе спадарожнік стаіць па калені ў вадзе і далей пайсці ніяк не адважыцца. Гэта зусім зразумела, бо калі пачне тапіцца, не схопіцца ж за такі касцюм. І хаця такі плывец гатовы на беразе абяцаць каханне да смерці, аднак стоячы ў моры — плача. Пасля гэтага не чакай, што спартсменка схілiць галоўку табе на плячо. Жанчыны любяць мужчын адважных, якія ні павука, ні таракана, ні вады не баяцца.

Паехаць зноў на адпачынак да цёшчы, роўназначна з самагубствам. Перад цёшчай абавязкова трэба адаграваць даўно астыўшае каханне да яе дачкі, падносіць пад воблакі жончыны неіснуючыя якасці, а ўласныя слабасці лепш захаваць у заднюю кішэню.

Як бачыце, людзі добрыя, выбар адпачынку справа не зусім лёгкая. Таму шматлікія грамадзяне адпачываюць у сваёй вёсцы.

Тут можна аб сваёй крыўдзе пажаліцца, напрыклад, перад каровай. Яна аб гэтым не распусціць язык па ўсёй вёсцы. Калі зноў нахлыне на чалавека пяшчотнасць, можа кабылу абняць за шыю і пацалаваць у вільготнае вока. А ў мінуты злосці, калі свінню саўганеш у рыла наском бота, гэта таксама застанецца між вамі. Свіння ж нікому не будзе жаліцца. А калі жонка дыбае па хаце ў касцюме «бікіні», вас гэта зусім не хвалюе. Хіба толькі шкадуеце 10 сантыметравага куска матэрыялу, расходаванага на гэты касцюм. Але і аб гэтым не скажаце жонцы.

*Дзядзька Лявон*

УЛАДЗІМІР КОРБАН

## ШКЛЯНКА ЧАЮ

/ БАЙКА /

Наранку ў хату да Івана
З'явіўся госць неспадзявана.
Ці сват,
Ці брат,
Ці кіраўнік які вядомы —
А можа проста і зямляк, —
Бывае ўсяк.
Забегаў гаспадар па дому,
Не ведае, дзе госця пасадзіць,
Чым госця частаваць, як госцю дагадзіць.
І з жалем кажа: «Сёмая гадзіна!
Зачынены яшчэ ўсе магазіны, —
Бутэлечку не ўдасца прыхапіць,
А дома я віна не маю.
Дык выпіце вы шклянку чаю!»
І жонка частаваць гасцінна пачала.
Адразу ж чаю наліла
І цукру лыжак сем усыпала у шклянку.
«Прашу вас! — кажа, — зранку
Заўсёды п'ецца чай. А на абед
Я прыгатую ўсё, як след, —
І чарку і закуску прыдбаю».
«А як жа! — гаспадар за жонкай
паўтарае,
Ды цукру дадае за лыжкай лыжку
— ўслед, —
Мы дужа рады госцю дарагому!»
«Вядома! —
Кабета ў свой чарод не адстае,
Таксама цукру дадае, —
Ад чыстае душы гасціннасць наша!»
А ў шклянцы ўжо не чай, а з цукру каша,
І ў рот ніхто не зможа ўзяць яе.
З агідай госць на шклянку пазірае,
Бо нудзіць небараку пачынае
Ад гэткай дабраты гаспадароў.
Нарэшце з імі развітаўся
І — будзь здароў! —
Нагасцяваўся.

---

Чай што! Вось іншы падхалім
Салодкім абыходжаннем сваім
Часамі так сябе пакажа,
Што і аматарам падхалімажа
Бывае размаўляць агідна з ім.



СВЯТОЧНЫ ПАДАРУНАК